**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№41(653)**
**11 кастрычніка 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





**6 кастрычніка адбылася цікавая сустрэча чытачоў Глыбокага з беларускімі пісьменнікамі Васілём Якавенкам і Анатолем Астапенкам. На здымку: Анатоль Астапенка (у цэнтры) прадстаўляе кнігу “Игде зродилися иускормлены суть по Бозе”. Справа – Васіль Якавенка.** *Фота Ул. Скрабатуна.* *Працяг тэмы на стар. 5.*



## У Беларусі пройдзе агульнарэспубліканская акцыя «Чысты лес»

**У Беларусі па ініцыятыве Міністэрства лясной гаспадаркі 13 кастрычніка адбудзецца агульнарэспубліканская акцыя «Чысты лес».**

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Мінлясгасу, акцыя пройдзе ва ўсіх рэгіёнах краіны пад дэвізам «Лёс лесу ў нашых руках». Асноўная яе мэта — прыцягнуць увагу грамадскасці да неабходнасці беражліва ставіцца да лесу, які з'яўляецца нацыянальным набыткам краіны, і не засмечваць яго.

У прэс-службе адзначылі, што арганізацыі міністэрства штогод накіроўваюць «значныя сілы і сродкі» на навядзенне парадку ў лесе. Але па-ранейшаму застаецца вострай праблема несанкцыянаваных звалак будаўнічых і бытавых адходаў, іншых пабочных прадметаў у лясах, сумежных з чыгункамі і аўтамабільнымі дарогамі, вакол населеных пунктаў, садаводчых таварыстваў і дачных кааператываў, на пляцоўках адпачынку і аўтастаянках.

За восем месяцаў 2012 года ў лясах сабрана амаль 8 тыс. кубаметраў бытавога смецця. Большая частка з яго (каля 3 тыс. кубаметраў) знаходзілася ўздоўж аўтамабільных дарог. Амаль 2 тыс. кубаметраў смецця сабрана ў месцах адпачынку і сумежных з імі тэрыторыях. Яшчэ 3 тыс. кубаметраў рознага бытавога смецця сабралі вакол населеных пунктаў і дачных пасёлкаў.

Акцыя «Чысты лес» закліканааб'яднацьнамаганні неабыякавых да лесу людзей, якія гатовы ўнесці свой уклад у навядзенне парадку ў лесе, вакол населеных пунктаў, паказаць прыклад стаўлення да галоўнага прыроднага багацця Беларусі.

Узяць удзел у акцыі запрашаюцца ўсе ахвотныя. Можна звярнуцца ў любое лясніцтва і заявіць аб сваім жаданні паўдзельнічаць. Арганізацыі Міністэрства лясной гаспадаркі забяспечаць усіх удзельнікаў неабходным інвентаром, арганізуюць вываз смецця.

Гэта акцыя па ініцыятыве Міністэрства лясной гаспадаркі праводзіцца ўжо чацвёрты год. За гэты час яна набыла сваіх пастаянных удзельнікаў. Акцыя актыўна падтрымліваецца мясцовымі выканаўчымі органамі ўлады, дзяржаўнымі, грамадскімі і камерцыйнымі арганізацыямі, школьнікамі, студэнтамі і сродкамі масавай інфармацыі. Штогод у акцыі «Чысты лес» удзельнічае больш чым 10 тысяч чалавек.

*Марына Носава, БелаПАН.*



## З 15 кастрычніка будзе працягнуты працоўны час аптэк

З 15 кастрычніка ў Беларусі будзе працягнуты працоўны час аптэк.

Як паведамляецца на сайце Міністэрства аховы здароўя, адпаведная прапанова міністэрствам зроблена «ў сувязі з пачаткам сезоннага ўздыму захворвання насельніцтва на вірусныя і іншыя рэспіраторныя інфекцыі і большым патокам наведвальнікаў».

Мяркуецца, у прыватнасці, арганізаваць працу аптэк усіх форм уласнасці па максімальна працяглым рэжыме працоўнага дня, без выхадных, а таксама разгледзець пытанне аб магчымасці працы аптэк у начны час.

Аб працягу рабочага часу аптэк прапаноўваецца праінфармаваць тэрытарыяльныя амбулаторна-паліклінічныя арганізацыі.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

Верхнядзвінскі раён

# Зноў сярод лепшых

■ Станіслаў Раманчук

**З прыўзнятым настроем вярнуліся дамоў з рэспубліканскага фестывалю-кірмашу "Дажынкі-2012" адразу тры маладыя работнікі сельгаспрадпрыемства "Прудзінкі", што ў Верхнядзвінскім раёне.**

Няглёдзячы на малады ўзрост, для камбайнавага экіпажа Сяргея Гапановіча і Аляксея Пілюшына, а таксама вадзіцеля Леаніда Іванова чарговае свята ў Горках стала ўжо традыцыйным. Яны ўжо ведалі, што перад паездкай на Магілёўшчыну з перадавікамі сустрэнуцца ў аблвыканкаме, абуюць і адзенуць усіх у аднолькавыя касцюмы. Прыемна было хлопцам, што іх родны раён на галоўнай сцэне другі год запар прызнаюць лепшым у Беларусі, бо тут на дрэнных землях змаглі намалаціць 88 тысяч тон збожжа. На сёлетнім жніве цяжка прыйшлося працаваць і гэтым хлопцам, але іх маладзёжны экіпаж стаў лепшым сярод маладых камбайнераў, за што Сяргею ўручылі ключы ад першага ў жыцці аўтамабіля "Лада-Сантана". Леанід Іваноў удзельнічаў ва ўборцы пяты сезон і ў трэці раз паехаў на "Дажынкі", стаў ужо летась таксама пераможцам спаборніцтва сярод маладых вадзіцеляў, хоць і працуе на старэнькім "МАЗе".

Усе трое хлопцаў маюць свае сем'і, гадуюць дзяцей, трымаюць свае гаспадаркі і жыўнасць. Яны свядома звязалі свой лёс з працай на вёсцы і не шкадуюць аб такім выбары. За перыяд жніва ва ўсіх былі заробкі болей, чым па 10 млн. рублёў, але такія даходы ў іншыя поры года не атрымаеш. Пасля вяртання дамоў у іх і не было часу, калі адпачыць, бо Сяргей перасеў на трактар, каб хутчэй на камбайне убраць бульбу на палях агульнага севазвароту.

Шаркоўшчынскі раён

# З баракаў у сучасны шпіталь

■ Чэслаў Якубовіч

**У гэтым годзе ў Віцебскай вобласці пачалася маштабная работа па мадэрнізацыі і абнаўленні ўстаноў аховы здароўя.**

Самым значным з такіх аб'ектаў стаў новы бальнічны комплекс Шаркоўшчынскай цэнтральнай раённай бальніцы, які ўзводзіўся на працягу цэлых 15 гадоў. Фільмы пра медыцыну пазамінулага стагоддзя можна тут было здымаць у драўляных, напоўразбураных будынках і бальнічных палатах на 12 хворых у пакоі. Аднак усе цяжкасці засталіся ззаду і ў кастрычніку тут пачаўся радасны час пераезду і наваселля. Праўда, новы дыягнастычны корпус райбальніцы дзейнічаў 10 гадоў, а іншыя аб'екты клінікі былі надоўга замарожаны. Усе выдаткі па яе ўзвядзенні ў памеры каля 60 млрд. рублёў узяў на сябе ў асноўным абласны бюджэт, што дапамагло за 2 гады справіцца з доўгабудам. Медыкаў парадавала, што ў іх сучасным бальнічным гарадку першым стаў дзейнічаць новы харчовы блок з адпаведным кухонным абсталяваннем. Таксама ў райбальніцы цяпер будзе і ўласная пральня, што зменшыць выдаткі на мыццё бялізны і адзення. Не мелі раней медработнікі і сваёй актавай залы, не маглі збірацца разам і ўвогуле працавалі дагэтуль у жудасных умовах. У райцэнтры спадзяюцца, што не будзе і праблем з кадрамі ўрачоў, бо іх забяспечаць тут па іх выбару кватэрай ці ўласным домам, і ёсць свае студэнты-медыкі. У адным са старых будынкаў былой бальніцы калектыў задумаў стварыць свой невялікі музей, а іншыя, яшчэ дабротныя памяшканні, будуць пераабсталяваны для размяшчэння сацыяльнага прытулку для адзінокіх пажылых людзей і інвалідаў.

Пастаўскі раён

# Што ўбачу – украду

■ Кастусь Александровіч

**У мінулым хоць і жылі людзі значна бядней, чым цяпер, аднак не было такога нахабства і яўнага цынізму, як у нашы дні.**

Вось і ў Пастаўскім раёне сёлета назіраецца значны рост крадзяжоў маёмасці грамадзян, якіх было зафіксавана за студзень-жнівень ужо 155 выпадкаў. У параўнанні з мінулым годам, па такіх фактах было ўзбуджана на 23 крымінальныя справы болей, а вось колькасць раскрытых падобных злачынстваў зменшылася. Хутчэй усяго застанецца нераскрытым і факт дзіўнага абрабавання дома пажылой жанчыны, якая пражывае на хутары Фаворы. Пакуль пенсіянерка гасціла ў сваёй дачкі на Гродзеншчыне, у яе часова пакінутую без нагляду хату завіталі, напэўна, не адзін раз няпрошаныя госці. За гэты тэрмін яны скралі дамашні маёмасці на агульную суму 3 млн. рублёў. З сабой забралі злодзеі праз разбітае акно нават самаробны куфар, некалькі віл, кос, паяльных лямп і лапат з сярпом, быццам такія ахвочыя да сялянскай працы. З сялянскай хаты і панадворку прапалі таксама сячкарня, некалькі трубак рубейроду, 6 зашклёных аконных рам. Зламыснікі разлічылі, што ім спатрэбіцца ў паўсядзённым жыцці і фляга з алюмінію, газавы балон, невялікія запасы цэглы і дроту. А вось маладыя беспрацоўныя з райцэнтра на падпітку пакваліўся вечарам на дзве бутэлькі гарэлкі, якую прыхапіў з сабой на вачах прадаўцоў магазіна, але быў неўзабаве затрыманы пры дапамозе службовай сабакі міліцыі. Пад суд пойдзе і другі гараджанін, які быў затрыманы ночу па дарозе дамоў пасля крадзяжу ў свайго земляка электрарухавіка бетонамешалкі і шэрагу іншых яе вузлоў.

# Лічба нумара

**7** – столькі холдынгаў, па дадзеных СМІ, сфарміравала і зарэгістравала Міністэрства прамысловасці Беларусі сёлета на сярэдзіну верасня. Да канца года такая дзейнасць упраўленцаў яшчэ больш актывізуецца, бо запланавана стварыць яшчэ 9 падобных структур у розных галінах айчыннай эканомікі. Па задумках айчынных упраўленцаў, з дапамогай такіх аб'яднанняў беларускіх вытворцаў стане магчыма рэальна выйсці ў наступным 2013 годзе на сярэднюю зарплату ў памеры ўжо 600 долараў.

Праўда, гаварыць быццам рынкавымі тэрмінамі ў нас навучыліся і цяпер з вуснаў першых асоб краіны ўсё часцей гучыць і новае слова "мадэрнізацыя". Вось і на прайшоўшых у Горках чарговых "Дажынках-2012" нязменны прэзідэнт публічна паабяцаў суайчыннікам новыя даходы, а ў перспектыве і зарплату нават пад 1 тысячу USD, але пры ўмове, што такую мадэрнізацыю паўсюдна правядуць ад маленькіх заводзікаў да волата БелАЗа. Як станоўчы прыклад, была адзначана станоўчая дзейнасць па тэхпераўзбраенні навапалацкага ААТ "Нафтан", але, як адзначыў А. Лукашэнка, шмат вытворцаў "сядзяць і чагосьці чакаюць".

Другі па значнасці дзяржслужачы М. Мясніковіч на адным з нядаўніх урадавых пасяджэнняў таксама занепакоіўся, што марудна змяняюцца падыходы да змянення структуры эканомікі і таму выканаць павышаныя паказчыкі 2013 года і гэтай пяцігодкі будзе вельмі складана. І ён мае рацыю, бо ў аснове папярэдняй пяцігодкі 2006-2010 гадоў таксама стаялі задачы мадэрнізацыі вытворчасці. Чым усё скончылася, добра ўсвядомілі беларусы летась: абвалам нацвалюты, "рэкордным" ростам цэн і такім жа рэкордным падзеннем узроўню жыцця, хоць зверху раілі працаваць "на ват у 5 змен" у суткі.

Цяпер зноў загаварылі пра мадэрнізацыю, пра змяненне правілаў гульні на рынку і стварэнні дзяржавай новых умоў для стымуляцыі развіцця. На практыцы гэта звялося, напрыклад, да стварэння адным з першых холдынга радыёэлектронікі "Гарызонт", у які ўвайшлі яшчэ 14 заводаў і арганізацый. А вось холдынг на базе ўпраўляючай кампаніі "БелАМА" аказаўся зусім маленькім: усяго 5 удзельнікаў. Аднак для іх цяпер устаноўлены новыя правілы: закупляць сыравіну і матэрыялы для бягучай дзейнасці будуць цэнтралізавана.

У працэсе такой вось рэарганізацыі ўдзельнікі холдынгаў павінны пералічваць свой прыбытак у інавацыйны фонд Мінпрама РБ, а затым сродкі будуць накіроўвацца ў найбольш эфектыўныя вытворчасці, якія прынясуць Беларусі найбольшую аддачу і праз некалькі наступных пяцігодак. І вось тут аптымізм, сказам шчыра, і заканчваецца, што такія смелыя планы прынясуць свой плён, а за беларускімі таварамі будуць ганяцца ў свеце.

Як паказвае жыццёвая практыка, нам увесь час штосьці перашкаджае. Раней надарыўся сусветны эканамічны крызіс, потым людзі вырашылі "падставіць" родную дзяржаву, скупілі быццам наяўную валюту на пакупку іншамарак. Цяпер вось суседка Расія ўступіла ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, куды і казахі рвуцца ў наступным годзе быць прадстаўленымі. Апошні фактар ва ўмовах членства РФ у СГА непакоіць ужо нацыянальных расійскіх вытворцаў, бо ім цяжка становіцца вытрымаць канкурэнцыю з вядучымі заходнімі фірмамі.

На гэтым фоне мы хоць дамовіліся з суседзямі нарэшце стварыць і агульны аўтахолдынг на базе расійскага аўтагіганта КамаАЗа да сакавіка 2013 года. Пачаўся ажыццяўляцца і праект па зборцы ў Беларусі кітайскіх легкавых аўтамабіляў, а з іранцамі падобны праект загадаў доўга жыць. На дадзеным этапе ў нас айчыннымі холдынгамі, такімі як "Аўтакампаненты", "Белстанкаінструмент", "Лідсельмаш", "БелАЗ-Холдынг" і іншыя кіраваць будуць праз Мінпрам РБ зноў прадстаўнікі дзяржавы.

А пакуль пасля параменцкіх выбараў прадоўжылася аслабленне беларускага рубля, ды і насельніцтва паперла ў абменнікі актыўна скупляць долары і еўра. А беларусаў паступова папярэджваюць аб павышэнні тарыфаў на паслугі ЖКГ, а спачатку быццам "папросяць вельмі багатых людзей часова дапамагчы па "камуналцы", толькі цікава як? І як і раней, зноў паабяцалі аказваць калгаснай вёсцы ўсебаковую дзяржпадтрымку, хоць перш страшылі, што ад гэтага адмовяцца. Аднача кіраўніцтва РБ плануе максімальна зменшыць імпарт, бо мы многае можам вырабляць і вырошчваць на палях. Толькі чамусьці ў нашых суседзяў харчаванне ды і іншыя тавары таннейшыя, а заробкі і пенсіі ў людзей адрозніваюцца ад беларускіх …

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 11.10.12 | | | | Пятніца 12.10.12 | | | | Субота 13.10.12 | | | | Нядзеля 14.10.12 | | | | Пнд.15.10.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +5 | +6 | +8 | +4 | +3 | +4 | +8 | +5 | +4 | +5 | +8 | +4 | +2 | +4 | +6 | +3 | +3 | +4 | +7 |
| Ціск | 741 | 742 | 744 | 745 | 746 | 746 | 747 | 747 | 748 | 748 | 749 | 749 | 748 | 747 | 746 | 744 | 744 | 745 | 747 |
| Вільготнасць | 91 | 90 | 69 | 90 | 96 | 94 | 69 | 93 | 97 | 92 | 73 | 90 | 95 | 88 | 80 | 94 | 99 | 97 | 81 |
| Вецер м/сек | 3 З | 3 Пд-З | 3 Пд-З | 2 Пд-З | 1 Пд | 1 Пд-У | 1 Пд-З | 1 Пн-З | 1 З | 1 Пн-З | 1 Пн-З | 3 У | 4 Пд-У | 4 Пд-У | 5 Пд-У | 5 У | 1 Пн-У | 0 ШТЛ | 2 Пд-У |

## Дзень за днём

**Выбарчая сістэма не дае збояў у РБ, ужо 16 гадоў дэпутатамі прадсказуема становяцца толькі асобы, зацверджаныя начальствам, прозвішчы якіх называліся яшчэ за месяц да апошніх выбараў. На падтрымку калгаснай сельскай гаспадаркі Беларусі ў 2013 годзе выдзелілі рэкордныя 33 трлн. рублёў. Другі год запар скарачаецца здабыча беларускай нафты, яе запасы вычэрпваюцца. Дзякуючы добраму ўраджаю Белспажыўсаюз сёлета павялічыў закупы яблыкаў ад насельніцтва ў 1,8 разы. З падачы А. Лукашэнкі краіна не будзе пераходзіць на зімовы час, да сакавіка розніца з Літвой, Украінай зноў будзе 1 гадзіна, а з Польшчай – нават 2 гадзіны.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Федэральная рэзервовая сістэма ЗША пачала серыю глабальных мер па падтрымцы эканомікі краіны для стымуляцыі занятасці, скарачэння беспрацоўя, што парадавала свет.

**Сірыя.** Пасля самага жудаснага месяца ахвяр вайны Сірыйская свабодная армія паабяцала ўзнагароджанне 25 млн. $ таму, хто выдасць ёй Башара Асада "жывым альбо мёртвым".

**Іран.** Тэгеран упершыню прызнаў, што накіраваў у Сірыю сваіх ваенных для дапамогі рэжыму Б. Асада ў барацьбе з паўстанцамі і аказвае яму ўсебаковую дапамогу фінансамі.

**Кітай.** Тэрытарыяльныя спрэчкі аб астравах Сенкаку прывялі да закрыцця ў краіне шэрагу прадпрыемстваў Японіі, пакуль да эканамічнай вайны дзвюх дзяржаў.

**Германія.** Глава МЗС Г. Вестэрвеле разам з польскім калегам Р. Сікорскім прапанавалі ўвесці прамыя выбары прэзідэнта ЕС, 11 дзяржаў ЕС хочуць зрабіць яе федэрацыяй.

**ЗША.** Моцна пахіснулася рэпутацыя кандыдата-рэспубліканца ў прэзідэнты М. Ромні, калі ён па неасцярожнасці абазваў палову нацыі "нахлебнікамі" на шыі дзяржавы.

**Англія.** Урад даручыў прыватнай кампаніі Capita вышук і наступную дэпартацыю з краіны больш 150 тысяч мігрантаў, у якіх скончыліся візы на права знаходжання ў Брытаніі.

**Казахстан.** Сакратар правячай партыі Ерлан Карын заявіў, што ідэя Расіі аб стварэнні Еўразійскага парламента нерэальная і казахі нават не будуць яе абмяркоўваць.

**Грузія.** На ўзбярэжжы Чорнага мора заклалі новы горад-порт Лазіка з насельніцтвам да 0,5 мільёна чалавек і самай зручнай у рэгіёне акваторыяй глыбіні для заходу суднаў з грузамі.

**Іспанія.** Урад краіны адхіліў просьбу ўлад Каталоніі аб прадастаўленні ім незалежнасці ў пытаннях выплат падаткаў у дзяржбюджэт, рэгіён будзе дабівацца большай аўтаноміі.

**Кыргызстан.** За атрыманае права размяшчэння тут надалей сваёй ваеннай базы Расія спісала дзяржаўны доўг краіны ў памеры 489 млн. долараў па ўзятых раней крэдытах.

**КНДР.** З-за адсутнасці ў самай закрытай краіны свету валюты ўраду Расіі прыйшлося спісаць каля 10 млрд. $ яшчэ доўгу СССР за пастаўкі харчавання і абсталявання.

**Італія.** На Міжнароднай канферэнцыі ў Рыме вучоная Карэн Кінг прадставіла знаходку, рэшткі папіруса, якія сведчаць аб тым, што Ісус Хрыстос мог быць жанатым.

**Грузія.** Прэзідэнт М. Саакашвілі сурова пакараў вінаватых у катаваннях зняволеных Глданскай турмы Тбілісі пасля паказу відэа на двух незалежных тэлеканалах краіны.

**Малдова.** Прэзідэнт Мікалай Цімофці заявіў, што Кішынёў не прамяняе еўрапейскую інтэграцыю на больш танны газ з Расіі, гэта не можа быць прадметам такіх перамоў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** Працэс арганізацыі сумеснай з Расіяй кампаніі "Саюзкалій", узгадненне ўсіх тэхнічных момантаў зойме яшчэ ад 6 да 9 месяцаў, ёсць спрэчкі наконт долі прадаж.

**Магілёў.** Былы намеснік старшыні гарвыканкама У. Ціток атрымаў 3 гады турмы з канфіскацыяй маёмасці за свае аферы з зямельнымі ўчасткамі ў прэстыжных месцах.

**Мінск.** Супраць "Белзнешпрамсервісу" Мінфін ЗША увёў санкцыі па падазрэнні ў пастаўках быццам ваеннай тэхнікі і ўзбраенняў рэжыму Башара Асада ў Сірыі.

**Ганцавічы.** Следчыя пачалі высвятляць, з-за чаго 15-гадовая вучаніца Хатыніцкай СШ кінулася пад дызель-поезд на чыгуначнай станцыі ў райцэнтры і так скончыла жыццё.

**Мінск.** Для сваёй лепшай будучыні, як заявіў палітолаг, прафесар У. Роўда, Беларусь павінна адмовіцца ад прэзідэнцкай формы кіравання, як і большасць краін Еўропы.

**Мазыр.** Дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы РФ і РБ Р. Рапота стаў куратарам праекта па пабудове на тэрыторыі раёна завода па вытворчасці соды коштам 300 мільённаў долараў.

**Жыткавічы.** На працягу некалькіх тыдняў на паляваннях у лясах раёна былі забіты 2 жыхары, адна з такіх ахвяр на сумленні 30-гадовага лясніка Юркевіцкага лясніцтва.

**Баранавічы.** Адміністрацыя дзіцячай паліклінікі адмовіла ў інтэрв'ю мясцовай папулярнай незалежнай газеце "Intex-press", бо выканала план … па публікацыях у сродках масавай інфармацыі.

**Жабінка.** У рацэ Мухавец на тэрыторыі раёна зафіксавалі трэці па ліку на Брэстчыне факт масавай гібелі рыбы з-за малой колькасці кіслароду ў вадзе сярод зялёных водарасцей.

**Пінск.** Раз'юшаны дзікі кабан, якога прагнаў з кукурузнага поля трактар, застрашыў усю вёску Маладзельчыцы і вельмі сур'ёзна параніў пенсіянера ля дома вяскоўца.

**Гродна.** П'яны 38-гадовы амонавец забіў сваю 32-гадовую сужыцельку і праламіў галаву 10-гадоваму дзіця, нябожчыца не хацела пускаць вярзілу на падпітку ў сваю кватэру.

**Мядзел.** На Рэспубліканскім святе паэзіі і песні ў райцэнтры адкрылі памятны камень у гонар 100-годдзя Максіма Танка. Тут потым плануецца паставіць і помнік славутаму паэту-земляку.

**Мінск.** Пасля разводу спявачку А. Агурбаш замяніла 40-гадовая беларуская журналістка Вольга Улевіч з "Комсомольской правды", яна стала віцэ-прэзідэнтам мяснай кампаніі.

**Баранавічы.** Ва ўласным гаражы падчас рамонту машыны 30-гадовага жыхара горада забіў незнаёмы хлопец за адмову падвесці яго дамоў, потым забраў аўто і з'ехаў.

**Ждановічы.** Ва ўласнасць дзяржавы перадалі дачу Васіля Быкава з мэтай стварэння да чэрвеня 2014 музея-дачы самага знакамітага беларускага пісьменніка ХХ стагоддзя.

## Урад плануе скараціць колькасць настаўнікаў




■ Радыё Свабода

**У 2013 годзе ў Беларусі пачынаюць рэалізоўвацца «пілотныя» праекты ў галіне сістэмы адукацыі. Міністэрства фінансаў плануе скараціць колькасць настаўнікаў у агульнаадукацыйных школах, каб вызваленыя бюджэтныя сродкі накіраваць на аплату іншых пэдагогаў. У сваю чаргу, навукоўцы заяўляюць пра недахоп настаўніцкіх кадраў.**

Намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч паведаміў, што рэформа распачнецца ў 17 навучальных установах розных рэгіёнаў краіны. Прэсавы сакратар Ірына Комар удакладніла наступае:

«Так, ёсць пілотныя праекты, якія пойдуць у 2013 годзе. Не факт, што яны пойдуць па ўсёй краіне, бо іх паглядзяць яшчэ прафесіяналы, спецыялісты, наколькі гэта будзе функцыянаваць. Гэта не значыць, што ў 2013 годзе адразу ўсіх будуць скарачаць. Але калі гэта ўсё будзе добра і ўсім спадабаецца, то будзем далей глядзець».

Паводле спадара Ермаловіча, школьныя класы не заўсёды ўкамплектаваныя дастатковай колькасцю вучняў, і, адпаведна, ёсць завышаная колькасць настаўнікаў. А скарачэнне настаўніцкіх кадраў дазволіць знайсці дадатковыя сродкі для падвышэння аплаты іншых педагогаў.

Аднак у школах зусім не шмат настаўнікаў — іх відавочна не хапае, кажа завуч адной з мінскіх школ: «У нас і так настаўнікаў зусім мала — у нас няма такіх настаўнікаў, каб іх скарачаць. У нас не хапае настаўнікаў. Нам хацяб набраць, каб вакансій лішніх не было, а не тое, што скараціць. Пачатковая школа ў нас — 20 вучняў у класе, а сярэдняя — 22-24. У нас няма маладых спецыялістаў. А ў групах падоўжанага дня, каб не пенсіянеры, — увогуле не было б каму працаваць. Вы ж ведаеце, у супрацоўнікаў адукацыі якія заробкі. Вось я намеснік дырэктара школы, перада мной ляжыць мой разліковы ліст: 500 авансу і 3700 заробак — гэта ў завуча. Настаўнік пачатковай школы зарабляе не больш за тры мільёны. А старэйшых класаў — каля чатырох».

Новыя планы ў галіне чарговага рэфармавання школы каментуе педагог, першы намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы Алена Анісім:

«Мне спадабалася выказванне адной жанчыны, якая з'яўляецца прадстаўніком настаўніцкай дынастыі. Яна кажа, што іх прадзед, які пацярпеў у сталінскія часы, пакінуў такія словы: „Трэба навучыць дзяцей быць шчаслівымі". Калі гэтыя словы будуць асноўнымі ў сістэме дзейнасці ўсіх устаноў адукацыі і настаўнікаў, то тады многія праблемы, у тым ліку і фінансавыя, будуць вырашацца іначай. Калі ж пытанні грашовыя будуць на першым месцы, а шчасце дзяцей і настаўнікаў на апошнім, то ніякія праблемы вырашацца не будуць. Бо яны не будуць на карысць ні дзяцей, ні настаўнікаў».

Як паведаміў намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч, пілотны праект дазволіць пазней распаўсюдзіць гэтую практыку на ўсю сістэму адукацыі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Фірма "Белвест" свой дзяржпакет акцый у памеры 55 % плануе перадаць упраўляючай кампаніі ствараемага холдынга "Беларуская скуранаабутковая кампанія".

**Полацк.** У штабкватэры ЮНЕСКА ў Парыжы прайшла прэзентацыя горада з нагоды яго юбілею і адкрылася фотавыстава І. Супранёнка "Полацк старажытны – Полацк сучасны".

**Лепель.** У памяшканні былога дзіцячага сада вёскі Новыя Валасовічы адкрылі сельскую амбулаторыю з 2-мя ложкамі дзённага стацыянару для абслугоўвання тысячы жыхароў.

**Віцебск.** Па праграме адсялення больш 700 сем'яў з гнілых баракаў у горадзе здалі для іх першыя 72 кватэры ў новым жылым доме, пабудаваным за кошт абласнога бюджэту.

**Бешанковічы.** З-за памылкі трактарыста перакуліўся і зваліўся ў меліярацыйны канал ля вёскі Рубеж трактар К-701, работніка дасталі жывога, але з пераломамі рэбраў, траўмамі.

**Докшыцы.** У райцэнтры завяршаюць узвядзенне фізкультурнааздараўленчага комплексу з плавальным басейнам, да Дня горада тут адкрыўся і помнік воінамінтэрнацыяналістам.

**Глыбокае.** У касцёле св. Ганны ў Мосары ў Сусветны дзень цвярозасці адбылася імша за вызваленне беларускага народа з палону п'янства і працэсія па Алеі цвярозасці.

**Орша.** Па гарачых слядах днём міліцыя затрымала грамадзяніна Расіі, які, пагражаючы прадметам, падобным на зброю, абрабаваў ювелірны магазін на сотні мільёнаў рублёў.

**Віцебск.** Праз двое сутак пасля забойства маладога таксіста быў затрыманы забойца, 41-гадовы раней судзімы беспрацоўны, які спіўся, раней ён 15 гадоў працаваў таксістам.

**Паставы.** У мястэчку Дунілавічы рыхтуюць да здачы новы жылы корпус на 105 месц псіханеўралагічнага інтэрната для састарэлых і інвалідаў, тут будзе і ляэчэбны блок.

**Докшыцы.** Супрацоўнікі РАУС аператыўна адшукалі злодзея, беспрацоўнага з вёскі Бярозкі, які скраў вечарам цяля 47 кілаграмаў вагой з калгаснай фермы, куды яго вярнулі.

**Верхнядзвінск.** Ураджэнец райцэнтра, дырэктар цэнтра развіцця і маркетынгу БК "Мінск-2006" Аляксандр Куль прыдумаў новую назву баскетбольнаму клубу - "Цмокі-Мінск".

**Віцебск.** Адміністрацыя мясцовага СІЗА не паведаміла родным, у якую новую турму ці калонію этапіравалі палітвязня, лідара арганізацыі "Малады фронт" Зміцера Дашкевіча.

**Глыбокае.** Новая прывабная зона адпачынку ў цэнтры мястэчка Празарокі з'явілася пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі, а касцёл упрыгожыла новая агарожа.

**Віцебск.** Кадэцкае вучылішча наведала чэмпіёнка свету па плаванні А. Герасіменя і падаравала зборнай РБ па футболе сярод інвалідаў па зроку спецыяльныя мячы з гукам.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Са святам, Лучай!

**“На беларускай зямлі цудоўнай, там, дзе квітнее Пастаўскі край, усваёй велічы невымоўнай нас сустракае здалёк Лучай…” Гэтымі паэтычнымі словамі пачынаецца гімн вёскі з маляўнічай прыродай, шыкоўнай архітэктурай, цікавай гісторыяй і таленавітымі людзьмі… 30 верасня галоўная песня мясцовасці прагучала не раз — Лучай адзначаў сваё 470-годдзе.**

**Іна СНЯЖКОВА.**
*Фота Андрэя Мацура, Альфрэда Мікуса.*

Цэнтрам свята традыцыйна стаў касцёл св. Юды Тадэвуша. Апоўдні тут распачалася ўрачыстая святая Імша, якая ў малітве аб’яднала вернікаў мясцовай парафіі і гасцей. Яе ганаровым госцем стаў ксёндз з Браслава Антоній Земба.

Гасцей, дарэчы, у каталіцкай святыні і ў будні дні нямала. Турысты з Беларусі і замежжа ў любую пару года прыязджаюць у Лучай, каб палюбавацца касцёлам — шэдэўрам архітэктуры канца XVIII стагоддзя. Будаваў яго італьянскі архітэктар Карл Спамані. Сцены і скляпенні ўнутры касцёла распісаныя знакамітым беларускім мастаком Казімірам Антасэўскім.

На пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў святыні захоўвалася… тэхніка, гародніна і зерне. Пазней храм справядліва вярнулі каталікам, адрэстаўравалі, добраўпарадкавалі прылеглую тэрыторыю. Асабліва шмат сіл у гэту працу ўклаў мясцовы ксёндз Мікалай Ліпскі, які ўжо шосты год гаспадарыць у лучайскай парафіі. Дзякуючы яго старанням вакол касцёла з’явілася адноўленая агародка з дзясяткамі барэльефаў, статуі апосталаў, капліца св. Францішка, макет палаца… А колькі святаў падарыў ксёндз вернікам! Кожны фэст, кожная ўрачыстасць праходзіць тут ярка, запамінальна.

Пра выдатныя творчыя і арганізатарскія здольнасці кс. Мікалая гаварыў і старшыня Навасёлкаўскага сельскага Савета Канстанцін Эдуардавіч Мядзведзеў, выступаючы перад вяскоўцамі пасляімшы. Асаблівыя словы падзякі ён адрасаваў лучайцам, якія падтрымліваюць ідэальны парадак не толькі на сваіх падвор’ях, але і на прыкасцёльнай тэрыторыі. Ксёндз Мікалай Ліпскі, Галіна Ананьеўна Фёдарава, Валянціна Асцігнееўна Пронька, Аляксандр Часлававіч і Надзея Іванаўна Курдо, Іван Іосіфавіч і Ганна Міхайлаўна Каралёнкі, Эміль Эмільевіч і Людміла Іванаўна Файферы, Канстанцін Мікалаевіч былі адзначаны ганаровымі граматамі сельскага Савета.

Старшыня сельсавета коратка расказаў прысутным пра багатую гісторыю вёскі Лучай. Землі вакол яе спрадвек належылі прадстаўнікам самых знакамітых сем’яў. Лучай упершыню ўпамінаецца ў 1542 годзе як уладанне Забярэзінскіх. Праз два стагоддзі ён пераходзіць да Альжбеты Пузына (Агінскай). У 1755 годзе яна падарыла вёску свайму брату Тадэвушу Агінскаму, па распараджэнні якога і быў пабудаваны касцёл.

Лучай. Касцёл св. Тадэвуша.

Шмат пакаленняў змянілася на лучайскай зямлі. І сёння тут жывуць і працуюць гасцінныя, добразычлівыя, працалюбівыя людзі. Вершы і песні ім падарылі на свяце мясцовыя самадзейныя артысты: Вікторыя Корзан, Ірына Шымчык, Галіна Рагіня, Дзяніс Шымук, Надзея Каспяровіч, Марыя Літвіновіч. Прыехалі на свята і вядомыя беларускамоўныя выканаўцы з Мінска — гурт “Верасень”, спявачка Паліна Рэспубліка, музыка, літаратар і мастак Лявон Вольскі.

Упершыню ў Лучай завітаў народны клуб нацыянальнай кухні “Груша” з Радзюкоўскага СДК Шаркаўшчынскага раёна. Яго ўдзельнікі за сімвалічную плату частавалі прысутных не толькі салодкай выпечкай, але і блінамі, спечанымі… на калодзе. Быў таксама чарговы раз са сваімі вырабамі гурток “Жаночы час” з Шаркоўшчыны.

Нягледзячы на халоднае надвор’е, свята атрымалася цёплым і душэўным. У гісторыі Лучая іх яшчэ будзе шмат. Ужо 27 кастрычніка тут адбудзецца галоўнае парафіяльнае свята — фэст св. Юды Тадэвуша.

“Хай жа сябрам ён і далей свеціць зоркаю яснаю праз гады, каб яго слава ішла па свеце, малітва лунала над ім заўжды!” — гучала пра Лучай у гімне, які разам праспявалі прысутныя.

Хай свеціць яшчэ не адно стагоддзе!



Старшыня Навасёлкаўскага сельскага Савета Канстанцін Эдуардавіч Мядзведзеў узнагароджвае ксёндза Мікалая Ліпскага (справа) ганаровай граматай за ўзорны парадак на прыкасцельнай тэрыторыі.








■ Яўген Самсонаў

# Дзень людзей сталага веку ў Глыбокім

**1 кастрычніка ў нашай краіне было адзначана міжнароднае свята людзей сталага веку.**

На многіх прадпрыемствах у Глыбоцкім раёне яно адзначалася ўрачыста. Не забылася пра сваіх былых работнікаў і кіраўніцтва УП ЖКГ Глыбоцкага раёна. Кожны пенсіянер атрымаў падарунак.

З прывітальнай прамовай і віншаваннямі перад прысутнымі выступіў дырэктар прадпрыемства Андрэй Шымковіч. У зале вітала аўра душэўнай цеплыні, пяшчоты і добразычлівасці. Самадзейныя артысты гаспадаркі парадавалі былых сваіх калег цікавым канцэртам, а гледачы, у сваю чаргу, у знак удзячнасці, шчодра адорвалі іх апладысментамі.



Ветэраны працы УП ЖКГ Глыбоцкага раёна



Падчас урачыстага паседжання

Успамін пра гэты ўрачысты дзень застанецца ў памяці ветэранаў працы надоўга, а мабыць і на ўсё жыццё. А што больш трэба сталаму чалавеку? Ведаць, што аб ім памятаюць, паважаюць, цэняць і шануюць.

# ПЕШАХОДЫ і ВЕЛАСІПЕДЫСТЫ,
## пазначце сябе на дарозе!

■ І.У. Федаровіч,
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

**ПЕШАХОД – самы масавы ўдзельнік дарожнага руху, які - паводле патрабаванняў Правіл дарожнага руху – нададзены не толькі правамі, але і абавязкамі.**

З надыходам восеньскага перыяду адзначаецца рост дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам пешаходаў.

Летась з 25 верасня па 1 лістапада на дарогах нашага раёна загінулі 3 пешаходы.

Галоўнымі прычынамі наездаў на пешаходаў з'яўляюцца грубыя парушэнні Правіл дарожнага руху, у першую чаргу дапушчаныя самімі пешаходамі, такіх як:

● знаходжанне на праезнай частцы ў п'яным выглядзе;

● ажыццяўленне руху пешаходамі па бардзюрах.

● спыненне нецвярозымі пешаходамі транспартных сродкаў у цёмны час сутак з раптоўным выйсцем на праезную частку дарогі.

● пераход дарогі ў неўстаperляваным месцы перад блізка ідучым транспартам;

● рух па праезнай частцы;

● раптоўнае выйсце з-за стаячага транспартнага сродку;

**Паважаныя пешаходы!** Асабліва небяспечна знаходзіцца на праезнай частцы, перасякаць яе ў цёмны час сутак ці ва ўмовах недастатковай або абмежаванай бачнасці (смуга, дождж і г.д.) Кіроўца можа не заўважыць пешахода, асабліва пры разміnанні з сустрэчным аўтамабілем.

Цёмная адзежа паглынае святло і, як правіла, меней прыкметная для кіроўцы. Для таго, каб узмацніць бачнасць чалавека на дарозе ў цёмны час сутак і ва ўмовах недастатковай бачнасці, Правілы дарожнага руху патрабуюць пазначаць адзежу пешахода элементамі са святлозваротных матэрыялаў.

Паклапаціцеся пра сваю бяспеку і бяспеку сваіх блізкіх, набудзьце святлозваротныя элементы.

За ігнараванне патрабаванняў правіл дарожнага руху пешаходамі да іх будуць ужывацца штрафныя санкцыі ў памеры ад 1 да 3-х базавых велічынь.

Інфармацыя для веласіпедыстаў: Пры адсутнасці на роварах ліхтароў (ззаду, якія выпраменьваюць чырвонае святло, а спераду белае святло) пры руху ў цёмны час сутак неабходна выкарыстоўваць з мэтай папярэджання наезду транспартнага сродку на веласіпедыста святлоадбівальныя камізэлькі.

Зважаем веласіпедыстаў на тое, што за дадзены від парушэння будуць ужывацца самыя жорсткія меры адміністрацыйнага ўздзеяння ў выглядзе штрафу ад 1 да 3-х базавых велічынь, а калі веласіпедыст знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення, то штраф складае 5 базавых велічынь. Раім набыць і выкарыстоўваць дадзены сродак пасіўнай бяспекі (КАМІЗЭЛЬКІ).




# Моцны вецер сарваў дах з Сафійскага сабора ў Полацку

**У выніку ўрагану, які адбыўся на мінулым тыдні, некалькі соцень населеных пунктаў краіны абясточаныя.**

Як паведамілі ў МНС, моцныя парывы ветру пашкодзілі каля 300 квадратных метраў бляшанага даху Сафійскага сабора.

Электрычнасць была адключана ў некалькіх сотнях населеных пунктаў, у асноўным у Віцебскай вобласці, на якую прыпаў асноўны ўдар стыхіі.

Таксама абясточаныя некалькі населеных пунктаў у Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай абласцях.

Па паўночна-заходняй палове Беларусі парывы ветру дасягалі 15–22 метраў за секунду, а ў асобных раёнах Віцебскай вобласці — 24–28 метраў за секунду.

Аварыйныя службы правялі аднаўленчыя работы на электрасетках.

*© Ximik.info*



# Пісьменнікі Васіль Якавенка і Анатоль Астапенка сустрэліся з чытачамі ў Глыбокім

■ Кастусь Шыталь

**Пісьменнікі Васіль Якавенка і Анатоль Астапенка, 6 кастрычніка прадставілі свае творы глыбоцкім чытачам.**

Перад мерапрыемствам арганізатары бедавалі: ці збяруцца людзі на прэзентацыю? Прыйшло сямнаццаць чалавек, зрэшты, болей людзей не змясцілася б у памяшканні.

Васіль Якавенка прадставіў свой раман-трылогію "Пакутны век". Вялізны, на 896 старонак, мастацкі твор прадстаўляе шлях беларускай нацыі ў ХХ стагоддзі – ад Першай Сусветнай вайны і да Лукашэнкі. Героі трылогіі – гістарычныя асобы, дзеячы нацыянальнага руху і простыя беларусы.

Адзін эпізод рамана адбываецца ў Глыбокім – аўтар апісаў зняволенне навукоўца Барыса Кіта ў камеры смяротнікаў падчас нямецкай акупацыі. Кожны вечар у камеру заходзіў гестапавец і называў прозвішчы тых, каму ісці на расстрэл. За Барыса Кіта заступіліся сябры, і праз месяц яго адпусцілі.

Васіль Якавенка не шкадаваў слоў, каб падкрэсліць унікальнасць сваёй працы. "Такога твора ў беларускай літаратуры яшчэ не было", – кажа аўтар. Зрэшты, з гэтым сцверджанем пагаджаюцца многія літаратуразнаўцы.



Васіль Якавенка распавядае пра кнігу «Пакутны век». *Фота Кастуся Шыталя.*




Анатоль Астапенка прадставіў чытачам кнігу "Игде зродилися ускормлены суть по Бозе". У загаловак вынесеная вядомая цытата з прадмовы Францішка Скарыны да біблійнай кнігі Руф. У 734-старонкавым выданні аўтар выказвае свой погляд на беларускую нацыю – нацыянальную ідэю, нацыянальную гісторыю, нацыянальнае мастацтва.

Глыбачанін Генадзь Плавінскі спытаў у Астапенкі, як можна ў двух словах выказаць беларускую нацыянальную ідэю. Аўтар адказаў, што найбольш кароткую і змястоўную яе фармулёўку даў Павал Севярынец – "Люблю Беларусь".

Другі твор, які прадставіў Анатоль Астапенка – "Сіняя кніга беларускага алкаголіка", напісаная пад псеўданімам Антон Кулон. У выданні сабраныя гісторыі беларускіх мастакоў, музыкаў, навукоўцаў, якія спіліся і рана пайшлі з жыцця. Сам аўтар дзесяць год таму кінуў піць і дзеліцца сваім досведам пазбаўлення ад алкагольнай залежнасці.

Творчасць Васіля Якавенкі і Анатоля Астапенкі зацікавіла глыбачанаў. Кнігі каштавалі ндорага, людзі ахвотна іх набывалі, прасілі ў аўтараў аўтографы.

На жаль, такіх вартых выданняў няма ў большасці беларускіх кнігарняў і бібліятэк.Дзяржаўная палітыка, якая дзеліць пісьменнікаў на "сваіх" і "чужых", робіць аўтараў і іх творы малавядомымі і цяжкадаступнымі.

# Вадзіцель ці яго пасажыры не маюць права забіраць з сабою дзікую жывёлу, якая загінула

**Восень цалкам уступіла ў свае правы, дні становяцца ўсё карацейшымі, ночы даўжэйшымі і цямнейшымі. З палёў прыбіраюць апошні ўраджай, тым часам дзікія жывёл актыўна мігруюць у пошуках ежы, асабліва аблюбоўваюць кукурузныя палі. Менавіта ў восеньскі час, часцей начны, кіроўцы трапляюць у непрыемныя сітуацыі, якія злучаны з дарожна-транспартнымі здарэннямі, звязанымі з раненнем ці гібеллю жывёл, пашкоджаннем аўтатранспарту.**

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Таму вадзіцелям неабходна быць асабліва ўважлівымі пры пераездзе ўчасткаў лясных масіваў, паблізу кукурузных палёў. Калі ж здарылася ДТЗ з удзелам дзікай жывёлы, то вадзіцель павінен у першую чаргу паведаміць пра здарэнне ў найбліжэйшы аддзел унутраных спраў. Дзяжурны АУС накірue да месца ДТЗ бліжэйшы нарад ДАІ, паведаміць пра здарэнне ў прыродаахоўныя органы (лясгас, міжрайінспекцыю), карыстальніку паляўнічых угоддзяў, на ўчастку якога адбылося ДТЗ, бо загінуўшая жывёла з'яўляецца ўласнасцю арандатара паляўнічых угоддзяў. Кіроўца ці яго пасажыры не маюць права забіраць з сабою загінуўшую дзікую жывёлу, ажыццяўляць разробліванне ці перавозку тушы дзікай жывёлы без адпаведных дакументаў, гэтыя дзеянні з'яўляюцца парушэннем, за якое прадугледжана адміністрацыйная адказнасць па ч.2 арт. 15.37 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні» «Парушэнне правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання», штраф у памеры да 30 базавых велічынь.

Так, у ноч на 1 кастрычніка 2012 года двое жыхароў г. Паставы, якія з'яўляюцца паляўнічымі і добра ведаюць правілы палявання, выявіўшы на абочыне дарогі загінуўшага дзіка, не паведамілі пра факт выяўлення ў АУС, а паспрабавалі выкарыстаць тушу для асабістых патрэб, але былі затрыманыя супрацоўнікамі міжрайінспекцыі. Вінаватыя прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

Каб не парушыць прыродаахоўнае заканадаўства і не стаць міжвольным парушальнікам, неабходна строга выконваць закон. Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання адзіныя для ўсіх грамадзян.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-28670 – «гарачая лінія» кругласутачна, 890-55-28, 897-23-02, 249-45-49.

# У Мосары на Сусветны Дзень Цвярозасці адбыліся рэкалекцыі, святкаванне Юбілею Алеі Цвярозасці і сустрэчы групаў АА

**Падтрымліваючы традыцыю, у Мосары ў першую суботу кастрычніка, калі адзначаецца Сусветны Дзень Цвярозасці, у гэтым годзе адбылося ўрачыстае святкаванне Дня Цвярозасці.**

Трохдзённыя рэкалекцыі (5-7 кастрычніка) сабралі вялікую колькасць людзей, якія, дзякуючы Божай ласцы і Божаму Святлу, адкрылі каштоўны дар цвярозасці, каб дзякаваць Богу за “цуды ў іх жыцці” і маліцца аб цвярозасці за дзяцей, моладзі, сем’яў і беларускага грамадства!

Кульмінацыяй рэкалекцыі стала святкаванне Сусветнага Дня Цвярозасці і 5-ці гадовага Юбілею Алеі Цвярозасці!

Падчас святкавання людзі з розных куткоў Беларусі мелі прыгожыя, кранаючыя сустрэчы са сведчаннямі АА, канферэнцыі і малітвы перад рэліквіямі святога Юстына і каля капліцаў на Ружанцы, пазнаёміліся з Мосарам і гісторыяй парафіі, добраўпарадкавалі Алею Цвярозасці, наведалі Этнаграфічны музей і “Касцёльны музей цвярозасці”. Таксама ўдзельнікі рэкалекцый увечары весела бавілі час з конкурсамі і забавамі.



Вельмі запамінальнымі і кранаючымі ў памяці ўдзельнікаў засталіся сустрэчы групаў АА (Ананімных алкаголікаў), і сямейных згуртаванняў АА: Ал-Анон (Алацін) (члены сем’яў, залежных ад алкаголю) і ДДА (дарослыя дзеці алкаголікаў). Аб’яднанні АА плённа працуюць у Беларусі па праграме 12-ці крокаў ужо больш 20-ці гадоў!

У суботу адбылася ўзнёслая ўрачыстая Святая Літургія аб каштоўным дары цвярозасці для ўсіх людзей, а таксама за памерлых ад алкаголю.

Пасля малітвы ў касцёле і вячэры, суботнім вечарам на сустрэчу ў “Парафіяльны дом” завіталі пісьменнікі Васіль Якавенка і Анатоль Астапенка. Васіль Якавенка прадставіў свой раман-трылогію “Пакутны век”, і яе працяг “Нячывелле”, і свае творы “Чорная Ружа”, “Прывіды Шанхая над Свіслаччу”. Анатоль Астапенка прадставіў чытачам кнігу “Игде зродилися и ускормлены суть по Бозе”, а таксама свой твор пад псеўданімам Антон Кулон “Сіняя кніга беларускага алкаголіка”. У гэтым выданні сабраныя гісторыі беларускіх мастакоў, музыкаў, навукоўцаў, якія спіліся і рана пайшлі з жыцця. Сам аўтар дзесяць год таму кінуў піць і дзеліцца сваім досведам пазбаўлення ад алкагольнай залежнасці. Алкаголікам важны жывы прыклад цвярозага і шчаслівага жыцця.



У нядзелю перад Святой Літургіяй АА і ДДА далі для вернікаў сваё сведчанне Божай прысутнасці ў іх жыцці.

Алкагалізм – гэта хвароба душы і цела. Калі ў сям’і ёсць алкаголік, хворыя ўсе. Пазбавіцца гэтай хваробы немагчыма. З ёй трэба жыць да канца свайго жыцця. Алкагалізм – хвароба, якая прагрэсіруе год ад году, але яе развіццё можна спыніць. Як? Адказ на гэтае пытанне можна знайсці толькі з Вышэйшай сілай – Богам.

Ні дактары, ні кадзіраванне, ні сіла волі не ў стане вызваліць чалавека з палону гэтай хваробы, а толькі Божая дапамога, сіла і ласка дазваляе адкрыць каштоўны дар жыцця ў цвярозасці.

Таму ў Мосары вызвалім беларускі народ ад знішчэння і алкагольнага генацыду!!!

Падрабязная інфармацыя на сайце:

**http://mosar.vickyblog.com**

Ксёндз Аляксей Юркайць, *адміністратар парафіі Мосар.*

Вул. Цэнтральная (касцёл), 211807 в. Мосар п/а Мосар, Глыбоцкі раён, Віцебская вобласць.

+ 375-33-676-1000.

E-mail: Mosarterra@gmail.com

Skype:Alexius230



## Віншаванкі

**Юрый Вітольдавіч Багдановіч!**

**Віншуем цябе з 35-годдзем!**

Жить желаем замечательно,
Быть здоровым обязательно,
уважаемым, любимым,
Также радостным, счастливым,
Ещё желаем добрым быть
и жизнь богатую прожить!

*Гарачкі.*

**Таццяну Дзмітрыеўну Юковіч**

(в. Шуневічы)

**Сардэчна віншуем з юбілеем!**

Прожито много разных дней,
Дней горьких, радостных, счастливых,
И вот настал твой юбилей –
Один из самых дней красивых.
Пусть эта замечательная дата
В твоей душе оставит добрый след,
Желаем мы всего, чем жизнь богата –
Здоровья, счастья, долгих лет.

*Сям’я Новікавых.*

## МНС інфармуе

**на 09.10.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 885;
Гібель людзей – 109, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 486.48 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 37;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;
Урон – 264 650 000 руб.

## Спачуванне

Вучні 10”А” класа СШ №3 і іх бацькі выказваюць шчырае спачуванне класнаму кіраўніку Сасімовічу Ігару Яўгенавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам – смерцю бацькі.

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»

## ПАНЯДЗЕЛАК, 15 кастрычніка

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Новости.
**07.05, 08.05** Деловая жизнь.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** В центре внимания.
**10.05** Клуб редакторов.
**10.45** Вокруг планеты.
**11.25** Журналистское расследование.
**12.15** Комедия «**Как ограбить банк»**
**13.50** Земельный вопрос.
**14.25** Док.сериал «Мастер путешествий» (США). Фильм «Рейн и Мозель».
**15.15, 19.20** Новости региона.
**15.30** Док.цикл «Звездная жизнь» (Украина). Фильм «Замуж за иностранца».
**16.30** Док.драма «Мистические истории»
**17.35** «Блестящие. Не все то золото, что блестит». Часть 1-я.
**18.30** Командировка.
**18.45, 23.40** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Премьера. Комедийный сериал **«Мамочки»** (Россия). 1-я серия.
**21.00** Панорама.
**21.45** Форум.
**22.45** Фантастический сериал **«Звездные врата. Первый отряд»** (США-Канада).
**00.05** День спорта.
**00.20** Комедия «**Как ограбить банк»**




**06.00, 08.30** Наши новости.
**06.05** ОНТ представляет: «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** ОНТ представляет: «Добро пожаловать в Беларусь».
**12.05** Премьера. **«На край света».** Многосерийный фильм.
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Премьера сезона «Время обедать!».
**13.50** «Модный приговор».
**14.55 «Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «С тобой и без тебя».**
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Судьба резидента. Операция«Голливуд».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** ОНТ представляет: «Открытый формат».
**22.10 «Закрытая школа»**
**23.15** «Вечерний Ургант».
**23.50** «Без свидетелей».
**00.20 «Убойная сила»**
**01.20-01.50** Ночн.новости.

### 2 Беларусь

**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детективн.сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Битва экстрасенсов.
**11.50 «Дело Румянцева»**
**14.15** Под грифом «Известные».
**14.50** Премьера. **«Деффчонки»** 1-я с.
**15.30** Белорусское времечко.
**16.35 «Подруга особого назначения»** 1-я с.
**17.50** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**18.55** Баскетбол. Лига ВТБ. Цмокі-Мінск-Нижний Новгород. Прямая трансляция.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Овертайм.
**22.00 «Подруга особого назначения»** 1-я с.
**23.10 «Деффчонки»** 1-я с.
**23.45** Криминальн.боевик **«Дрянь»** (СССР).




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.40** «Большой завтрак».
**10.20** «Поющие города». Дневник. Витебск.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.35** «Званый ужин».
**12.35 «Слово женщине».**
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** «Другая страна». «Украина. В предвыборном колесе».
**15.00** Концерт Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Слово женщине».**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35 «Статский советник»**
**21.45** ПРЕМЬЕРА! СТВ представляет: «Книжная история».
**22.20** «Поющие города». Дневник. Лунинец.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Поговорим».
**23.05** «СТВ-спорт».
**23.10** «Тайны мира с Анной Чапман».
**00.05** «Адская кухня».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:15** Зона «Свабоды»
**7:45** Навігатар
**8:00** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**8:25** Дак гадзіна: «Пекін ад золку да змяркання»
**9:10** Два на два
**9:35** Euromaxx
**18:00** Назад у будучыню
**18:10** Вагон
**18:15** Еўропа сёння
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Цюхця, што ты за стварэнне?!»
**19:00** Студыя «Белсат»
**19:30** «Апантаныя-2»
**19:45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл
**20:00** Студыя «Белсат»
**20:25** Эксперт
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Не прапусці!
**21:45 «Навука сну»**
**23:30** Аб'ектыў
**23:55** Маю права
**0:15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы

